ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Выборы президента России назначены на 14 марта

Совет Федерации — верхняя палата российского парламента — определил дату проведения выборов президента России — они назначены на 14 марта 2004 года. Как сообщает *РИА "Новости"*, за это решение проголосовали единогласно все 142 члена верхней палаты. Голосовавших "против" и воздержавшихся не было.

## Иракские контракты достанутся только союзникам США

Пентагон заявил, что компании из стран, выступавших против войны в Ираке, не смогут принять участие в тендерах на восстановление страны, стоимость которых составляет 18,6 млрд. долларов. Заместитель министра обороны США Пол Вулфовиц заявил, что это решение необходимо для защиты "ключевых интересов США в сфере безопасности".

Основные 26 контрактов связаны с работами в таких сферах, как нефть, энергетика, коммуникации, водоснабжение, строительство жилых помещений и зданий для правительственных учреждений и общественных организаций. Запрет, в первую очередь, коснется компаний из Франции, Германии и России. Как передает корреспондент Би-Би-Си в Пентагоне Ник Чайлдс, администрация Буша еще до начала военных действий намекала, что странам, выступающим против войны в Ираке, придется заплатить за свои позиции, когда речь пойдет о послевоенном восстановлении страны.

## Латыши погибли на горе в Новой Зеландии

**Тела четверых латышских альпинистов были найдены недалеко от вершины самой высокой в Новой Зеландии горы Кука.**

Полиция предполагает, что они упали с высоты примерно 300 метров. Трое альпинистов были связаны тросом, тело четвертого лежало неподалеку. В момент происшествия погодные условия в этом районе были благоприятными. Гора Кука высотой в 3754 метра расположена на Южном острове Новой Зеландии, в 700 километрах от Веллингтона, столицы страны. Каждый год восхождение на нее совершают тысячи альпинистов. Гора Кука, хотя и не самая высокая в мире, отличается своей сложностью. За последние 75 лет на ней погибли по меньшей мере 95 человек. В этом году до латышей смерть настигла троих человек.

## Королеве Англии сделают операцию

77-летняя британская королева Елизавета II ложится в больницу, где ей сделают хирургическую операцию на колене, сообщает Associated Press. По информации Букингемского дворца, удаление поврежденного хряща из левого колена королевы проведут в пятницу в лондонском госпитале имени короля Эдварда VII. Аналогичную операцию на правом колене Елизавете II делали 13 января этого года.



Пресс-секретарь монарха заявил, что королева покинет госпиталь в выходные. Восстановление после процедуры займет несколько недель. Эта операция была запланирована давно и не является последствием какой-либо недавней травмы.

## Грузия отзывает посла из Москвы

Грузия отзывает своего посла в Москве Зураба Абашидзе в Тбилиси для консультаций. В посольстве Грузии объяснили это введением в "одностороннем порядке упрощенного визового режима с Аджарией (автономия в составе Грузии) без предварительного согласования с официальным Тбилиси". Отсутствие предварительного согласования с Грузией этого вопроса Абашидзе назвал неприемлемым.

"Подобные односторонние действия рассматриваются как факт грубого попрания суверенитета Грузии", — говорится в заявлении МИД Грузии. МИД полагает, что этот шаг противоречит заявлениям о дружественных и добрососедских отношениях между двумя странами. Кроме того, как сообщает из Тбилиси корреспондент Би-Би-Си Тенгиз Аблотия, большие вопросы вызывает и процедура упрощения визового режима на территории автономии, которая не граничит с Россией. Как именно пограничники в российских аэропортах будут определять, что перед ними житель Аджарии, а не какого-нибудь другого региона?

## Тайбэйский плебисцит

**Президент Тайваня Чен Шуйбянь выступает в защиту планов проведения на острове плебисцита по поводу того, ощущают ли его жители военную угрозу со стороны Китая.**

Ранее президент США Джордж Буш по результатам переговоров с китайским премьером Вэнь Цзябао в Вашингтоне предупредил Тайбэй против стремления к обретению независимости. Однако руководитель Тайваня в ответ заявил, что это "оборонный референдум" с тем, чтобы избежать войны. В ходе референдума жители острова должны одобрить требование к Китаю убрать сотни ракет, нацеленных на Тайвань.

После переговоров с китайским премьером президент Буш дал ясно понять, что Америка против любых односторонних шагов, которые угрожают ее политике "одного Китая". "Мы против любых односторонних шагов Китая или Тайваня в целях изменения статус кво. Заявления и действия руководства Тайваня указывают на то, что оно может принять одностороннее решение, меняющее нынешнее положение вещей, с чем мы не согласны", — отметил Буш. Как пишет пресса, эти ремарки Буша являются пока что самым жестким заявлением США против тайваньского референдума. Однако Белый дом отмечает, что критика Тайбэя не должна расцениваться как одобрение каких-либо действий Пекина по запугиванию Тайваня методами военной силы.

Участники антивоенной демонстрации в Японии требуют отозвать японские войска из Ирака

## 732 шайба Бретта Халла

**Форвард "Детройт ред уингз" Бретт Халл забил свою 732-ю шайбу и теперь по этому показателю отстает только от Гретцки и Хоу.**

Этот гол Халл забил в ворота "Лос-Анджелес кингз" в овертайме. "Красные крылья" в итоге выиграли 3:2. Халл, которому сейчас 39 лет, оттеснил на четвертое место Марселя Дионна (который когда-то начинал в "Ред уингз", но основную часть своей карьеры по иронии судьбы провел как раз в "Лос-Анджелесе"). Халл забивает в последних семи играх, и в этом сезоне это его 16-й гол. Теперь впереди "Золотого Бретта" — только великие Уэйн Гретцки (894 шайбы) и Горди Хоу (801).

## Дело об убийстве Галины Старовойтовой передано в суд

В суд Петербурга поступило дело об убийстве депутата Государственной Думы Галины Старовойтовой. Перед судом предстанут шестеро обвиняемых, один из которых — сотрудник Главного разведывательного управления Генерального штаба Юрий Колчин. Еще шесть человек, причастных к убийству, находятся в международном розыске.

*Би-Би-Си, Lenta.ru*

ПАМЯЦЬ

# Максіму, з любоўю...

*Чатыры гады таму ў Беларусі адбыўся конкурс на лепшы праект надмагільнага помніка Максіму Багдановічу. І гэтым летам, у рэшце рэшт, на магіле паэта ў Ялце быў устаноўлены яго бюст работы* ***Сяргея ГУМІЛЕЎСКАГА*** *і яго бацькі — народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі* ***Льва ГУМІЛЕЎСКАГА.***

— Варта было мне ўбачыць белы каменны блок, і я адразу ж адчуў: гэта менавіта тое, што патрэбна! — сказаў Сяргей.

**— Мармур?** — пацікавіўся я, разглядаючы фота помніка.

— Не, гэта граніт!

**— А вельмі падобны на мармур... Вы доўга яго шукалі?**

— Мы перабралі шмат блокаў: і з Янцаўскага радовішча, што на Урале, і з Мансурскага, што ў Казахстане, — там граніт крыху жаўтаваты і, у рэшце рэшт, знайшлі светлую пароду. Гэта аказаўся граніт з Расіі, з Сухавязаўскага радовішча.

**— Чаму выбралі менавіта граніт? І чаму бачылі бюст белым?**

— Перад намі была пастаўлена задача: не выкарыстоўваць для помніка каляровыя металы, бо ва Украіне іх крадуць нават больш, чым у нас. А светлы камень выбралі таму, што ён добра ўпісваўся ў цёмную прастору, якую стваралі старыя дрэвы — бронза на іх фоне таксама выглядала бы цёмнай. Светлы граніт цудоўна кантраставаў з дрэвамі.

Магілы знакамітых людзей, якія лячыліся і паміралі ў Ялце, знаходзяцца ў асноўным на Палікураўскіх могілках. Там, напрыклад, у 1870 годзе пахаваны рускі жывапісец Васільеў, аўтар "Мокрага луга", які ўжо стаў класікай. Магіла Багдановіча, які лячыўся і памёр у Ялце ў 1917 годзе, па сутнасці, таксама павінна быць на Палікураўскіх могілках, але ў Расіі у той час яго амаль не ведалі і таму пахавалі на могілках гарадскіх. Яны старыя, і перад намі стаяла праблема: пакольку крану праехаць туды немагчыма, помнік трэба было манціраваць без дадатковых тэхнічных сродкаў, а значыць, яго часткі трэба было рабіць адносна лёгкімі — дэталь у паўтары тоны на руках да магілы не данясеш!

**— Вам даводзілася раней бываць на магіле Багдановіча?**

— Калі мы з бацькам выйгралі конкурс, то я прыехаў у Ялту за свае грошы: стараўся ўявіць, як будзе выглядаць помнік у натуральных умовах, з якога матэрыяла рабіць і гэтак далей. І калі яго нарэшце ўстанавілі, усе адзначылі, што помнік упісаўся так арганічна, быццам стаяў на гэтым месцы заўсёды.

**— А чаму вы наогул вырашылі ўзяць удзел у конкурсе? Ці, можа, увекавечваць памяць айчынных паэтаў — сямейная традыцыя: калісьці Леў Мікалаевіч зрабіў любімы сёння ўсімі помнік Янку Купалу ў Мінску?**

— Удзел у конкурсах — справа складаная і няўдзячная. Але бываюць такія конкурсы, у якіх проста нельга не ўзяць удзел.

Максім Багдановіч мае для мяне вялізнае значэнне: яшчэ ў дзяцінстве палавіну яго вершаў я ведаў на памяць — так яны леглі на душу... А калі служыў у арміі, мама прывезла мне томік яго твораў... У нас у сям'і, наогул, адносіны да Багдановіча трапятлівыя. Я лічу, што ён — як зорка, мільгануў на небасхіле, а мы дагэтуль любуемся яркім следам, які ён пакінуў... І немагчыма знайсці падобнага яму паэта ні ў беларускай, ні ў іншай літаратуры!

**— Я таксама, як і мой бацька, і мой сын, з дзяцінства люблю празрыстую паэзію Багдановіча і лічу, што яна да канца яшчэ не асэнсавана і не ацэнена: ён не толькі беларускі, а сусветны паэт, сапраўдная касмічная з'ява...**

— Я дыпломную работу сваю выконваў па творах Багдановіча. Яе планавалі ў свой час устанавіць у Траецкім прадмесці, але ішла рэканструкцыя музея, і мне сказалі: трэба рабіць асвятленне, падлогу і гэтак далей, а грошай мала... Работу я рабіў ад сэрца, яна захавалася і, можа, калі-небудзь усё ж такі зойме месца там, дзе планавалі ўстанавіць яе першапачаткова. Так што тэма гэтая для мяне — невыпадковая.

**— Колькі праектаў было прапанавана на конкурс?**

— У конкурсе, які аб'явіла наша Міністэрства культуры ў 1999 годзе, бралі ўдзел дзевяць скульптараў. Журы адабрала ў першым туры два так званых "заказных" праекты, якія павінны былі дапрацоўвацца: на гэта аўтарам выдзяляліся невялікія сумы грошай. Але мы з бацькам таксама вырашылі ўзяць удзел у другім туры, і ў выніку наша работа была прызнана лепшай, хаця яе таксама давялося дапрацоўваць. Багдановіч выкарыстоўваў у сваёй паэзіі такія класічныя формы, як ронда, санет, трыялет... І мы лічылі, што асноўная ідэя помніка — паказаць яго як паэта-класіка. Таму за аснову ўзята класічная круглая калона, а вакол помніка ідзе дэкаратыўная агароджа, якую спачатку хацелі рабіць з алюмінію. Але алюміній — таксама каляровы метал, і яе зрабілі з чыгуна. Чыгун, на жаль, з цягам часу іржавее, і мы пакрылі яго ўсімі магчымымі спосабамі, каб служыў даўжэй.

На рэльефе *агароджы* — элементы траў і ўкрапленні васількоў, — памятаеце яго "Слуцкія паясы": "цвяток радзімы васілька...". На пліце ўнізе надпіс: "Беларускі паэт Максім Багдановіч" і гады жыцця, а справа на сценцы ўрывак з "Зоркі Венеры": "Кожную ночку на зорку дзівіцца буду ў далёкім краю". Хаця былі прапановы ўзяць адзін з апошніх вершаў: "У краіне светлай, дзе я уміраю..."

Сам бюст вырашаны ў рамантычным стылі: накідка Багдановіча нагадвае марскую хвалю, у правай руцэ ён трымае кнігу... Вельмі хацелася даць яму кнігу: па-першае, ён сам пісаў пра сябе — "Максім-кніжнік", а па-другое, у канцы жыцця зноў успамінае пра кнігу; "Я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты..."

**— А калона — мармуровая?**

— Не, яна таксама з граніта, але не з белага, як бюст, а светла-шэрага...

**— На каляровым здымку гэта выглядае вельмі прыгожа, але калона здаецца адпаліраванай, а бюст — матавым...**



*Так выглядаў стары помнік Максіму Багдановічу.*



*Так ён выглядае зараз.*

— Такі кантраст быў зроблены наўмысна, а бюст матавы таму, што калі б яго адпаліравалі, то ў гэтым была б нейкая дэкаратыўнасць...

**— Чаму помнік устанавілі толькі праз чатыры гады пасля конкурсу?**

— Вы ж ведаеце, што ў Міністэрстве культуры няма вялікіх сродкаў. Як, наогул, робіцца помнік? Скульптар павінен зрабіць макет помніка, яго праект, вызначыць памеры, прапорцыі калон, пліт... Потым архітэктар робіць рабочыя чарцяжы, а скульптар — сам бюст. Астатнія работы выконваюцца іншымі майстрамі на спецыяльным абсталяванні на скульптурным камбінаце ў Дражні. За іх — за рэзку, фармоўку, за іншае — трэба плаціць, у выніку атрымліваецца вялікая сума.

Архітэктарам помніка мы запрасілі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Аляксандра Жлобу, тэхнічнымі, гранітнымі работамі займаліся мой аднакурснік скульптар Міхаіл Яршоў і Уладзімір Шпак. Карацей кажучы, у нас сабралася каманда аднадумцаў, і ў выніку помнік быў гатовы яшчэ зімой 2001 года. Але на ўстаноўку грошай не было, і на працягу двух гадоў ён знаходзіўся на прысядзібным участку ў прыватным сектары. Грошай на ахову таксама не было, і з помнікам магла здарыцца любая недарэчнасць. У рэшце рэшт, я напісаў пра гэтую сітуацыю міністру культуры, і сродкі на ўстаноўку помніка былі выдзелены. Сума была невялікая, і, напэўна, нам бы яе не хапіла, калі б Мінскі аўтазавод не дапамог бясплатным траспартам, — мы плацілі толькі за бензін.

**— А хто ўстанаўліваў помнік?**

— Наша каманда і ўстанаўлівала: Міша Яршоў, Валодзя Шпак з сынам Алёшам, скульптар Ігар Засімовіч, я і мой аднакласнік, жывапісец Алесь Суша. Ён ведаў, што працаваць давядзецца бясплатна, але папрасіў узяць яго з сабой, бо вельмі хацеў пабываць на магіле Багдановіча, датыкнуцца, узяць удзел у рабоце. І вадзіцелі з аўтазавода Віктар Каптур і Сяргей Раманаў працавалі нараўне з намі. Сяргей узяў з сабой жонку з дзіцём, і яна часта гатавала для ўсіх ежу.

**— Для іх таксама паэзія Багдановіча многа значыць?**

— Паэзію Багдановіча, як і любы беларус, яны, безумоўна, ведаюць, але тут справа, я думаю, — у нацыянальнай свядомасці, у якой многія адмаўляюць нашаму народу. Яны ж ехалі ў іншую краіну на магілу нашага, беларускага, паэта! Шчыра кажучы, ужо пасля таго, як нам давялося 15 гадзін правесці на ўкраінскай мытні, вадзіцелі мелі поўнае права павярнуць назад, але не зрабілі гэтага, а добраахвотна сталі паўнапраўнымі членамі нашага калектыва.

**— А чаму вас так доўга не прапускалі ўкраінскія мытнікі?**

— Украінская амбасада ў Беларусі выдала нам паперу на ўкраінскай мове для мытнай службы і работнікаў украінскага ДАІ з просьбай не перашкаджаць руху нашай калоны, якая складалася з пяцітоннага грузавога "бычка" з помнікам і мікрааўтобуса, на якім ехалі мы. Потым, на тэрыторыі Украіны папера гэтая нам неаднаразова дапамагала, але ў самым пачатку на мытні нас затрымалі. Справа ў тым, што ў дакументах было напісана: помнік перадаецца ў дар Ялце! А ва Украіне ёсць закон, — не ведаю, можа, падобны існуе і ў нас, — адпаведна якому Ялта павінна была заплаціць за гэты падарунак нейкія грошы ўкраінскай казне. Карацей кажучы, мінула пяць, дзесяць гадзін, а мы не ведалі — прапусцяць нас ці адправяць назад? Я патэлефанаваў у Мінск, у музей Багдановіча, адтуль адразу жа звязаліся з украінскай амбасадай, амбасада яшчэ з кімсьці — і на мытню прыйшоў факс, дзе паведамлялася, што помнік застаецца на балансе музея, а ялцінскія улады бяруць на сябе адказнасць за яго цэласць. Мы таксама прынялі на месцы некаторыя меры, і ў выніку на тэрыторыю Украіны нас прапусцілі.

**— І з чаго пачалася ваша работа?**

— З містыкі! Летам у Ялце праблем з жыллём асабліва не бывае, але мы прыехалі ноччу і думалі, што астатак яе давядзецца правесці на вуліцы ці ў машыне. Але раптам аднекуль з'явілася жанчына і пацікавілася, ці не патрэбна нам кватэра? І амаль адразу ж высветлілася, што яе муж пахаваны побач з Максімам Багдановічам. І яна даглядае абедзве магілы: і свайго мужа, і Багдановіча. Я нават прозвішча яе запомніў: Мазур.

А раніцай пачалася работа. Спачатку трэба было ўбраць стары помнік, мы баяліся, што ён разаб'ецца, але ўсё абышлося. Помнік — каменная пліта — быў устаноўлены ў 1927 годзе, і яго забралі ў Ялту, у Літаратурны музей. Потым залілі цэментную падушку, на якую трэба было класці каменныя блокі. Пакуль цэмент застываў, выдаўся свабодны дзень, і я наведаў загадчыцу аддзела культуры Ялцінскага гарвыканкама Алену Міхайлаўну Пераверзеву. Пасля прывітання яна раптам кажа: "Мы не можам дазволіць вам дэмантаж старога помніка, пакуль не будуць афармлены ў Сімферопалі, а потым у Кіеве адпаведныя дакументы!" У мяне вочы на лоб палезлі, але не прызнаюся, што мы палову работы ўжо зрабілі! На наступны дзень высветлілася, што дакументы гэтыя па асабістай ініцыятыве даўно ўжо аформіў Аляксандр Фёдаравіч Жлоба падчас свайго адпачынку ў Ялце. Алена Міхайлаўна выдзеліла нам у дапамогу на адзін дзень шасцярых салдат, потым сама нас наведала і вельмі здзівілася, што мы так хутка ўстанавілі помнік. Трэба сказаць, што ў нашым калектыве была вельмі добрая атмасфера!

**— А што было самым цяжкім у рабоце?**

— Там магілы размяшчаюцца на розных узроўнях: адна — ніжэй, другая — вышэй, і спускі вельмі крутыя. На грузавой машыне можна дабрацца толькі да пэўнага ўзроўню, так што калі б у нас не было мікрааўтобуса, здольнага браць паўтары тоны груза, то не ведаю, што б мы і рабілі! Мы падвозілі блокі на грузавіку, потым перагружалі іх на мікрааўтобус і везлі далей, а потым зноў перагружалі на тачку і давозілі да самай магілы. Салдаты нам вельмі дапамаглі, бо калоны і бюст важылі па паўтоны...

**— За які тэрмін вы ўсё зрабілі?**

— За дзесяць дзён. Мы пастараліся заадно і максімальна ўпарадкаваць усё вакол магілы: зрабілі дарожкі, выкарысталі для гэтага блокі старога помніка... Калі ўсё закончылі, запрасілі айца Андрэя з храма Святога Залатавуста, і ён асвяціў магілу з новым помнікам. А потым крыху памянулі нашага паэта.

**— Вы задаволены сваёй работай?**

— Мы працавалі ад усёй душы, ад усяго сэрца, з самага пачатку і да канца і, думаю, зрабілі для Максіма Багдановіча ўсё, што маглі...

**Ганна АРЦЮШКЕВІЧ.**

# Опасные связи

***За женитьбу на иракской девушке американский солдат Шин Блэквелл заплатит карьерой***

*Шин Блэквелл, военнослужащий 1-й бронетанковой дивизии США, расквартированной в Ираке, скоро будет уволен из армии и отправится на родину. Дисциплинарное взыскание он уже получил. Вина солдата, как считает командование, очевидна: во время патрулирования улиц Багдада он ненадолго отлучился, чтобы заключить брак с иракской девушкой.*

**Наталия БАБАСЯН**

О том, где и когда они будут сочетаться браком, 27-летний сержант Шин Блэквелл и его иракская подруга Эхдая договорились накануне. Начистив пуговицы и сменив воротнички, сержант по расписанию вышел в город на пешее патрулирование и, проходя по одной из улиц, "на минутку" отлучился.

В одном из домов неподалеку его уже ждали Эхдая и местный судья, который провел бракосочетание. Препятствий для него не оказалось — чтобы жениться на приглянувшейся ему девушке, Блэквелл перешел из христианства в ислам.

Сохранить брак в тайне не удалось. Но вместо поздравлений сержанта ждал неприятный сюрприз: военное начальство обвинило его в "разглашении секретных данных о времени и маршруте патрулирования потенциальным врагам" — невесте и иракскому судье, проводившему церемонию.

Впрочем, как считает адвокат Блэквелла Ричард Элвойд, его клиенту повезло: сержант избежал возможных обвинений в нарушении воинского долга и неподчинении приказам, которые грозили ему военным трибуналом. Пока дело ограничилось письменным "выговором с занесением в личное дело" и уведомлением о грядущей отставке.

Командование "инцидент" с Блэквеллом не комментирует. Молчат американские "отцы-командиры" и о судьбе другого военнослужащего из той же дивизии — 37-летнего капрала Брета Дагена. Он женился на иракской девушке при схожих обстоятельствах — отлучившись с патрулирования 17 августа. Капрал так же, как Блэквелл, перешел из христианства в ислам. Обе девушки, вышедшие замуж за американцев, по профессии врачи-терапевты. Знакомство с будущими мужьями произошло, можно сказать, на рабочем месте. Девушки трудились в Министерстве здравоохранения Ирака, охраняли же здание американские солдаты.

"Любовная история" капрала Дагена закончилась неудачно. Супружеская пара собирается разводиться: на этом настаивают иракские родственники жены. Эхдая, жена сержанта Блэквелла, тоже получает угрозы как "предательница своего народа". Встречи с мужем по распоряжению армейского командования ей запрещены, можно лишь иногда разговаривать по телефону. Семья Блэквелла в ярости. "Я возненавидела сына за эту позорную отставку из-за того, что он влюбился", — говорит его мать Вики.

Но супружеская пара сдаваться не собирается. Как утверждает адвокат сержанта, планируется, что до Рождества Эхдая вылетит в Западную Европу. Через некоторое время к ней присоединится Шин Блэквелл, который к тому времени уже будет уволен из армии. В Америку супруги прибудут нескоро — на получение разрешения на въезд в США для иракской гражданки потребуется время. Но с голоду молодожены не умрут: по словам адвоката Блэквелла, на днях будет подписан контракт на книгу, посвященную истории их любви. А чуть позже о них снимут фильм.

*("Известия").*



*Шин Блэквелл и его будущая жена Эхдая.*

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

## Раскрыта тайна любовных надписей в Париже

В Париже наконец-то нашли человека, который на протяжении нескольких месяцев писал на стенах города слово "Любовь". Надписи появлялись до ста раз за ночь и затем стирались аккуратными парижскими дворниками. Работники газеты "Либерасьон" нашли-таки автора надписей. Им оказался 54-летний безработный художник Жан-Люк Дюес.

Художник рассказал журналистам печальную историю своей любви, которая и заставила его обратиться к уличному творчеству. Девушка бросила его еще два года назад, однако рана Дюеса до сих пор не зажила. Художник пытался вернуть свою возлюбленную, посылая ей цветы и письма. Затем он решил писать "Я люблю тебя" на улицах по дороге от ее дома на работу.

Затем Дюес получил судебный ордер, извещавший его о том, что он не имеет права приближаться к девушке и делать попытки связаться с ней в течение трех лет. "Осталось два года", — говорит Дюес.

Художник уже было собрался покончить со своим уличным творчеством, однако неожиданно получил поддержку горожан. "Одна женщина, застав меня за написанием очередной надписи, остановилась и сказала: "Так это вы автор этих строк? Продолжайте писать, я чувствую себя лучше, когда вижу эти надписи", — рассказывает Дюес. После этой встречи художник поменял "Я люблю тебя" на "Любовь" — более глобальное обращение ко всем парижанам.

## Секс в автомобилях популярен в Китае

В Китае растет озабоченность властей и общественности по поводу нового феномена — увлечения молодых людей, которым нравится заниматься сексом в автомобилях. Некоторые эксперты полагают, что это социальное явление возникло в силу двух факторов: быстро растущего числа машин в частном пользовании и изменений в сексуальном поведении китайцев, произошедших за последние 10 лет.



По словам одного из китайских юристов, бороться против наслаждающихся интимом автомобилистов законными средствами невозможно. Автомобиль в Китае — это не только средство передвижения, но и личное пространство, в котором владелец вправе пользоваться своими гражданскими свободами в полной мере. Полиция, не проявляющая щепетильности во многих других случаях, в подобных ситуациях, по-видимому, бессильна. Стражи порядка просто просят парочки уехать с места, где их застали врасплох. В провинции Гуандун на юге Китая секс на колесах стал весьма заметным явлением и оживленно обсуждается в местных средствах массовой информации. Местная журналистка вызвала сенсацию, опубликовав в Интернете детали своих интимных встреч с десятками мужчин. Известности ей добавил тот факт, что ее книга на эту тему была запрещена.

